АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 – 17 ЧЭРВЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№24 (216)

ВІЛЕЙКА

## Вілейскія касманаўты

Амаль закончаны капітальны рамонт вуліц 1 Мая і Чапаева. Ідэальна роўны асфальт незвычайна чорнага колеру нагадвае ўзлётную паласу для касмічных караблёў.

На гэтых палосах некаторыя "касманаўты" ў начны час здолелі разганяць свае "заркалёты" да 120 км/г.

Але хоць гэтыя дарогі і набылі амаль ідэальны стан, у горадзе дазволеная хуткасць засталася 60 км/г.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

СМАРГОНЬ

## Смаргонцы будуць з тэлефонамі

У горадзе ёсць тры АТС агульнай ёмістасцю ў 10 тысяч нумароў. 9700 з іх ужо ўстаноўлены, ідзе далейшае падключэнне тых, хто стаіць на чарзе найбольш доўгі час (усяго чарга складае 3261чалавек).

Калі раней яшчэ на 100 смаргонскіх сем'яў было да 30 тэлефонаў, то цяпер іх – 65. Начальнік раённага вузла электрасувязі **Іван Добрук** перакананы, што да канца года лічба вырасце да 70-72.

Гроднааблтэлекам абяцае, што і надалей смаргонскім абанентам будзе аказвацца дапамога ў выдзяленні сродкаў на набыццё сучаснай тэлефоннай апаратуры і станцый.

*Павел МАКЛЮК.*

ВАЛОЖЫН

## Колькасць «дзяцей» павялічылася

Тут стварылі раённае аддзяленне дабрачыннага камітэта "Дзеці Чарнобыля" (не блытаць з "Дзецям Чарнобыля").

Узначаліла яго намеснік галоўнага ўрача РТМА **Валянціна Шаврда**.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

## Папулярна пра правы чалавека

Адбылася сустрэча жыхароў горада з супрацоўнікамі польскага Хельсінскага фонду па правах чалавека Марэкам Шымчыкам і Адамам Дэбашэм.

У сваіх выступленнях яны папулярна расказалі, што такое правы чалавека, раскрылі змест паняццяў "свабода", "дэмакратыя", "роўнасць", "прававая дзяржава".

У заключэнне М. Шымчык і А. Дэбаш адказалі на шматлікія пытанні прысутных.

*Віктар ШОЦЬ.*

ВІЛЕЙКА

## Вяскоўцы на чамаданах

Штогод падчас сухога надвор'я небяспека навісае над вёскай Бубны Даўгінаўскага сельсавета.

Раней два разы вёска была пад пагрозай знішчэння агнём. Цяпер ля Бубнаў дыміцца 5 гектараў тарфянікаў, але сітуацыя кантралюецца.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Ахвяравалі на дах

2,5 тысячы марак перадалі немцы на рамонт даху Дорскай СШ. Па падліках спецыялістаў, пасля рамонту 25 год школа не будзе цячы.

Дарэчы, на рамонтных работах у Дорскай сярэдняй школе працавалі 10 актывістаў з германскага хрысціянскага саюза маладых людзей горада Эмдэна і здалі пад ключ 2 адрамантаваныя класы-кабінеты, а ў туалетах паставілі новую сантэхніку.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Вілейчане вучаць

Тут прайшоў абласны семінар загадчыкаў аддзелаў адукацыі.

Начальнік абласнога ўпраўлення адукацыі **Аляксандр Новік** адзначыў, што Вілейка выбраная невыпадкова, бо тут можна паглядзець і навучыцца новым формам работы.

*Аддзел інфармацыі*

## Амаль месяц у Амерыцы

*правялі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый Маладзечна. Гэта ўжо другая група маладзечанцаў, якая ў рамках праграмы Community Connection праходзіла стажыроўку ў недзяржаўных NGO Злучаных Штатаў. Ранейшая, нагадаем, была першай з Беларусі, якая наведала штат Аёва.*

*Матэрыял чытайце на 3-й старонцы.*

ЛЕТА

# Спёка



*Гараджанаў у гэтыя дні можа выратаваць квас ці халодная мінералка, якая, дарэчы, у некаторых крамах скончылася.*

*Землеробаў адратаваць можа толькі дождж. Беларусі, калі не пашчасціла, то не пашчасціла ў ва ўсім. Нават у надвор"і. Зямляператварылася ў пыл. Цалкам рэальна тое, што гэты год будзе зусім неўраджайны. А пакуль людзі хаваюцца ў халадку пад дрэвамі і "кучкуюцца" ля бочак з квасам.*

*Маладзечна, вуліца Прытыцкага паміж гастраномам "Юбілейны" і кінатэатрам "Радзіма" у адзін са спякотных дзён 1999 года.*

ФОТА ВАЛЯНЦІНА ГЕРНОВІЧА.

З ВАДОЙ І БЕЗ ВАДЫ

## Да канца месяца гарачая вада будзе ў кватэрах маладзечанцаў

*МАЛАДЗЕЧНА. Раней графіка (29 мая, па плане 3 чэрвеня) гарачая вада вярнулася ў кватэры многіх маладзечанцаў. Хаця далёка не ва ўсе. "Да канца чэрвеня горад поўнасцю будзе з гарачай вадою", — запэўніў намеснік дырэктара Маладзечанскіх электрасетак* ***Леанід Кузняцоў****. Прэс—цэнтр па балючым для насельніцтва пытанні арганізаваў аддзел інфармацыі гарвыканкома.*

Найбольш складаная сітуацыя па гарачай вадзе ў Залінейным раёне, па вуліцы Маладзёжнай, у раёне цэнтра пазашкольнай работы (вуліцы Машэрава, Вольная), па вуліцы Будаўнікоў. У цэнтральным парку трэба рамантаваць 400 метраў труб. Работа будзе весціся адносна доўгі тэрмін. Таму цяпер пракладваюцца часовыя трубы, каб людзі цалкам не адчулі на сабе гэты рамонт. Пасля веснавой апрасоўкі пачнецца восеньская – у другой палове жніўня. Плануецца яна на тыдзень. І да пачатку навучальнага года павінна скончыцца.

**– З года ў год за кошт скасавання такой неспрэчнай выгоды, як гарачая вада, ідзе падрыхтоўка да зімы. І надалей так будзе? Кватэры ж нам выдзялялі з усімі выгодамі.**

– Многія спецыялісты (не абавязкова ў Маладзечне) лічаць прыкладна так: каб добра падрыхтавацца да зімовага ацяпляльнага сезона, трэба адключыць гарачую ваду і няспешна заняцца рамонтам абсталявання кацельняў. Ахвяраваць летам дзеля зімы. Мы ж хочам і да зімы падрыхтавацца, і людзей не пакрыўдзіць. Ёсць вельмі складаныя моманты. Напрыклад, па вуліцы Будаўнікоў (дамы № 7, 9, 11) трэба мяняць 150 метраў труб. Гэта на лета трэба пакінуць кватэранаймальнікаў без гарачай вады. Таму трубы мяняем па частках.

**– Якую тэмпературу па норме павінна мець гарачая вада?**

– 55 градусаў. Аднак не заўсёды па тых ці іншых прычынах норма вытрымліваецца. У нас не было скаргаў, калі падавалі ў кватэры ваду 40–45 градусаў.

**– Вы гаворыце, што электрасеткі нясуць перад гараджанамі маральную адказнасць. Толькі маральную? Ці былі выпадкі, што МЭС праз суд плаціў кватэранаймальнікам кампенсацыю за незахаванне тэрмінаў апрасоўкі, рамонту?**

– За 16 год, што я працую ў МЭСе, усе аварыйныя сітуацыі ліквідавалі аператыўна. А тэрміны апрасоўкі ўзгадняюцца з гарвыканкомам. На жаль, заўсёды з'яўляюцца незапланаваныя работы. Лічу, гэта не тая сітуацыя, каб падаваць на нас у суд.

**– Сёння вашая арганізацыя – адзіны гаспадар цеплασетак?**

– Разам з ВА ЖКГ становімся гаспадарамі. Арганізацыі, установы перадаюць нам сваю гаспадарку. У нас ёсць прэтэнзіі да ГАП №2, хімчысткі, некаторых іншых. Тое, што яны павінны былі рабіць, прыйдзецца рабіць нам.

**– Якасць вады вас задавальняе?**

– Магу адказаць толькі як радавы кватэранаймальнік: не заўсёды. Вада трапляе з водаканала, і мы яе толькі падаграем. Па якасці – пытанне да іншых.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

100 ВЫПАДКОВЫХ ТЭЛЕФАНАВАННЯЎ

## Ці ведаеце вы, што лесвічныя пляцоўкі ў дамах павінна прыбіраць домакіраўніцтва?

*МАЛАДЗЕЧНА. Амаль 70 жыхароў шматкватэрных дамоў з ліку ста абанентаў, якім былі зробленыя тэлефанаванні, у першы раз пачулі, што прыбіраць лесвічныя пляцоўкі не іх абавязак. Яны заўсёды самі прыбіралі ў сваіх пад'ездах, дзе нават складзеныя графікі на кожным паверсе. 28 апытаных чулі альбо чыталі пра свае правы, але ж таксама прыбіраюць самі, не чакаючы прыбіральшчыкаў, бо лічаць гэта нерэальным.*

Адна бабулька сцвярджала, што лесвічныя пляцоўкі ў іх доме заўсёды чыстыя і акуратныя, таму што там жывуць толькі пенсіянеры, якія беражліва ставяцца да сваіх пад'ездаў. І ім не патрэбна, каб за іх нехта прыбіраў і браў за гэта грошы, бо ў пенсінераў і так кожная капейчына на ўліку. Яна, мусіць, не ведае, за што мы плацім так званую "квартплату".

- Лепш я куплю лішні пакет кефіру і прыбяру пляцоўку сама, мне няма куды спяшацца, - сказала бабулька.

Адзін мужчына ведае, што ў Мінску пляцоўкі прыбіраюць работнікі домакіраўніцтваў. У іх доме толькі ліфт калінікалі прыбірае нейкая жанчына, але ён не цікавіўся, хто яна і адкуль.

Дзве жанчыны і мужчына адказалі, што ў іх прыватызаваныя кватэры і быў заключаны дагавор, у якім напісана, што пляцоўкі будзе прыбіраць домакіраўніцтва, але справа засталася толькі на паперы. Адна з жанчын, вельмі абураная, выказалася, што наш народ ніколі нічога не дабіваўся, і па ім ходзяць, прабачце, як па анучы.

*Анжаліка АРАБІНКА.*

МАЯ МІЛІЦЫЯ

# Тры метры пад Валожынам

*Валожынскі райаддзел унутраных спраў многім можа пахваліцца. Але найперш — ізалятарам часовага утрымання (ІЧУ). Сапраўды, муры старажытнага палаца, у сутарэнні якога месцяцца камеры ізалятара, выдатна дапамагаюць выконваць свае функцыі. "Тры метры пад Валожынам" — жартам называюць міліцыянеры гэтую ўстанову. Каму колькі трэба — столькі тут адбудзе. Суда чакаючы, прыгавору, ужо асуджаныя перад этапам, альбо на звычайных "сутках". "Пяцёрку" ізалятару можна атрымаць толькі тады, калі тут няма пабегаў, самазабойстваў.*

Але не толькі таму тут не было за апошнія гады нейкіх надвычайных здарэнняў. Каб пазбегнуць ЧП, у ізалятар заўсёды ідуць працаваць самыя лепшыя, якія адслужылі не менш трох год. Начальнік ІЧУ **Дзмітры Іваноўскі** падабраў на службу добрых хлопцаў. **Аляксандр Паплаўскі, Іван Гіль**, іх саслужбоўцы выдатна ведаюць сваю справу, разумеючы, што тут галоўнае – дысцыпліна і дакладнасць выканання загадаў.

Начальнік міліцыі грамадскага парадку і спецыяльнай міліцыі **Васіль Граноўскі**, расказваючы пра ІЧУ, гаворыць, што за кратамі ізалятара звычайна знаходзіцца 15 – 20 чалавек. Але на святы, калі пачынаюцца сямейныя скандалы, даходзіць і да трыццаці. Што ж, калі калі іншы раз лепшы лекар міліцыя, то і яна лечыць, праўда, сваімі метадамі.

Год таму мне давялося быць у аналагічнай установе шведскага гарадка Ліндэнсберг. Ведаеце што – адрозненне невялікае. Там у камеры толькі тапчан мякчэйшы, хочацца прысесці. У Валожынскіх камерах дошкі крыху больш жорсткія. А ў астатнім – усё аднолькавае. Злодзей – ён і ў Швецыі, і ў Валожыне – злодзей.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*



*Адзін з лепшых работнікаў раённага аддзела унутраных спраў вадзіцель ізалятара часовага ўтрымання* **Уладзімір Валента.**



*У Валожыне больш за 11 тысяч жыхароў. Няхай дні і ночы ўстарых будуць заўсёды спакойнымі, маладых – бясклапотнымі. Як у Машы, якая ў першыя дні школьных канікул бавіцца на "роліках".*



*Валожынская міліцыя, яе ізалятар, як і суд, размясціліся ў былым палацы пана Юзафа Тышкевіча. Палац будаваўся на мяжы 18 — 19 стагоддзяў. Пра гэта можна прачытаць у любым даведніку. Але амаль няма згадак, што гэта толькі частка ансамбля. Дакладна такі самы палац стаіць праз каменны плот насупраць. Месціцца там вайсковая часць. На жаль для фотакарэспандэнтаў "люстраны адбітак" гэтага палаца недаступны.*

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 2.06 | 9.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 460 | **505** |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1039 | **1039** |
| Сасіскі | 1 кг | 425 | **445** |
| Селядзец | 1 кг | 300 | **330** |
| Рыс | 1 кг | 205 | **200** |
| Цукар | 1 кг | 138 | **137** |
| Грэчка | 1 кг | 150 | **200** |
| Алей | 1 л | 370 | **375** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 140 | **150** |
| Маянэз | 250 г | 65 | **68** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 440 | **450** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | **120** |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 110 | **115** |
| Лімоны | 1 кг | 480 | **495** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | **220** |
| Масла | 1 кг | 450 | **500** |
| Тварог | 1 кг | 120 | **140** |
| Малако | 1,5 л | 60 | **70** |
| Бульба | 1 вядро | 280 | **300** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 170 | **200** |

МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

## Рэгістрацыя спыненая

Каля 2 месяцаў як спыненая рэгістрацыя прадпрымальнікаў і прыватных фірмаў, якія маюць намер займацца ўласным бізнесам. Дзяржаўныя ўлады шукаюць дапушчальныя механізмы кіравання малым бізнесам. Вядуцца дэбаты, якім шляхам даваць дазвол на прадпрымальніцкую дзейнасць.

Адзін з варыянтаў наступны. У гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтах супрацоўнікі будуць толькі збіраць і апрацоўваць неабходныя дакументы.

Прэрагатыву даваць дазвол ці адмаўляць у рэгістрацыі прадпрымальнікаў і іншых камерцыйных структур пакінуць за аблвыканкомам.

*Аддзел інфармацыі.*

БЮДЖЭТ

## Пакрыўджаныя бюджэтнікі

СМАРГОНЬ. Некалькі месяцаў, як ускладнілася становішча з выплатай заработкаў бюджэтнікам, найперш урачам і настаўнікам. У маі з цяжкасцю ўдалося разлічыцца 15 мільярдамі з імі, а на чарзе ўжо майская зарплата, затым адпускныя, на што запатрабуюцца велізарныя сумы.

Раённы бюджэт папаўняецца як быццам бы ў адпаведнасці з разлікамі. А вось 45% папаўненняў яго з вобласці пастаянна знаходзіцца пад пагрозай зрыву.

Напружанасць з грашовай масай сур'ёзна непакоіць фінансістаў.

*Павел МАКЛЮК.*

"РГ"–СТАТЫСТЫКА

## Датацыі спажыўцам

СМАРГОНЬ. Вялікая ўдзельная вага расходаў раённага бюджэту нясе сацыяльную накіраванасць.

Калі б адсутнічалі датацыі з бюджэту, то за адну паездку ў гарадскім аўтобусе трэба было б плаціць не 4 тысячы рублёў, а ўсе 11. За адну тону торфабрыкету давялося б выкласці з кішэні 3,7 мільёна, а вугалю – 14,5 мільёна рублёў. Пакуль што дзяржава даплачвае за паліва адпаведна па 3,1 і 13,1 мільёна рублёў.

Незалежна ад таго, прыватызаваная ці не кватэра, кожнай сям'і бюджэт штомесяц дапамагае на суму ад 3,2 да 4,6 мільёна рублёў, таму што цяперашняя кватэрная плата пакрывае выдаткі толькі на 21,5%.

*Павел МАКЛЮК.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Амаль месяц у Амерыцы

*МАЛАДЗЕЧНА – ДЭ МОЙН. Савет Аёвы па міжнародным ўзаемаразуменні прапанаваў цікавую праграму — наведванне амерыканскіх недзяржаўных грамадскіх арганізацый, мясцовага тэлебачання, тэатра, запаведніка, розных цэнтраў і клубаў, навучальных устаноў. Акрамя праграмы візіту, быў час пазнаёміцца з жыццём амерыканцаў, цэнамі ў рэстаранах і магазінах.*

## Больш за палову амерыканцаў пакутуюць на лішнюю вагу

Яны зрэдку гатуюць дома ежу. Вялікая колькасць рэстаранаў прапануе розныя нацыянальныя кухні. За 10 долараў (звычайны заработак у Дэ Мойне 3-5 тысяч долараў у месяц) можна добра паесці і нават выпіць. У магазінах самая танная гарэлка (бутэлька ёмістасцю 0,75 л, але не вельмі добрай якасці) каштуе 7 долараў.

Асаблівым попытам карыстаюцца так званыя буфеты. За ўваход трэба заплаціць долараў з 6 (у маленькіх гарадах 4–5 долараў, у вялікіх – да 8) і колькі хочаш часу можна карыстацца шведскім сталом. Звычайна прапануецца каля 40–50 страў. Вельмі шмат садавіны, агародніны. Пад'еўшы, можаш пастаяць, пахадзіць і зноў частавацца. Галоўнае, каб ты не выйшаў з буфета.

Амерыканцаў "вымушаюць" купляць (значыць, і ўжываць) больш прадуктаў, чым ім трэба. Напрыклад, шакаладны батончык каштуе адзін долар, а шэсць гэтых жа батончыкаў паўтара долара. Калі Джон пачаў набіраць вагу – працэс бясконцы. Іх, як мы гаворым, лепш пераскочыць, чым абысці. Тамтэйшыя таўстуны не сарамеюцца свайго выгляду. Хутчэй, наадварот.

## Злодзеі ў Дэ Мойне сумуюць

Амерыканцы не зачыняюць свае дамы. Я жыў ў сям'і сярэдняга дастатку. Гаспадары – мастачка Джын і яе сястра архітэктар Джулі – маюць дом у двух узроўнях (10 пакояў), мікрааўтобус, джып, зялёную лужайку ў 8 сотак. Выпадкова мы даведаліся, што нашы рэчы не замыкаюцца на ключ. Сёстры патлумачылі, што няма такой неабходнасці. Вялікіх грошай у доме не трымаюць, за пакупкі расплачваюцца чэкамі. Адзенне, прадукты ў магазінах танныя. Тамтэйшаму "бамжу" няма патрэбы лезці ў дом – ён можа прайсціся па вуліцы і набыць сабе бясплатны гардэроб. Непатрэбныя рэчы, адзенне, мэбля ці прадаюцца па сімвалічных цэнах, ці выстаўляюцца на вуліцу.

Свае дамы і ўчасткі амерыканцы ўпрыгожваюць кветкамі. Грады з агуркамі ды памідорамі я не заўважыў. Як, натуральна, кароў, свіней і кур. А вось кошак і сабак тыя трымаюць. Прычым беспародных. У Джын і Джулі жылі два сабакі, помесь балонкі і спаніеля. Дарэчы, калі сёстры іх выгульвалі, бралі з сабою цэлафанавыя пакеты. Пасля свайго сабакі нельга нічога пакідаць на вуліцы.

У амерыканскіх дамах мала кніжных паліц. Кнігі звычайна трымаюць у дэкаратыўных кошыках. Каб месца не займалі і пыл не збіралі.

У жылых раёнах створаны камітэты грамадскасці. Яны сочаць за знешнім выглядам твайго дома, участка. Калі нехта хоча дабудаваць тэрасу, гэта трэба ўзгадніць з камітэтам. А калі табе няма часу ці жадання дом пафарбаваць, падстрыгчы лужайку, камітэтчыкі табе пафарбуюць і падстрыгуць. Праўда, потым выставяць рахунак за работу.

## Амерыканскія парады сантэхнікам, камунальнікам, работнікам ДАІ і садаводам

Своеасабліва амерыканцы змагаюцца з пустазеллем. Калі пасаджаныя расліны праклюнуліся з зямлі, іх абкладваюць карою дрэў, трэскамі. З такім матэрыялам пустазелле не можа спаборнічаць – гіне. Зямля дыхае, а насціл лёгка прапускае ваду.

Сантэхнічныя трубы не псуюць знешні выгляд пакояў. Яны замураваныя ў сцены. А ўнітазы напаўняюцца вадой да палова. Спусцілі ваду – і зноў яна набегла. Таму ўнітазы ніхто не чысціць, яны проста не вымазваюцца.

У штаце Аёва не існуе паняцце "тэхагляд машыны". Машына ездзіць, слухаецца гаспадара – што яшчэ трэба? А вось да вадзіцеляў ставяцца і жорстка, і, адначасова, з разуменнем. Калі нават пасажыр у машыне будзе трымаць у руцэ адкрытую бутэльку піва, сам вадзіцель выкладзе на штраф даволі вялікія грошы. А каб вадзіцель не заснуў за рулём, за гэтым сочыць "жоўты паліцэйскі" – па ўзбочынах шашы пакладзеная жоўтая паласа; заехаў на яе і такое адчуванне, нібы едзеш па пральнай дошцы.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ*

# Крыжаванка



**Па гарызанталях:** 1. Стадыя развіцця насякомых. 5. Спартыўная гульня. 8. Асвяжаючы напітак. 9. Памяншэнне ўзроўню вады каля берага ў моры або акіяне пад уплывам месяца. 10. Адамашненая форма сазана. 14. Кіраўнік вышэйшай навуковай установы. 16. Уладальнік сельскагаспадарчага прадпрыемства. 17. Перадача мяча партнёру ў спартыўных гульнях. 18. Прадстаўнік дзяржавы ў якой–небудзь краіне. 19. Сталіца дзяржавы ў Азіі. 22. Адміністратыўна–тэрытарыяльная адзінка ў Расіі XV-XVI ст.ст. 23. Мадэль аўтамабіляў у Чэхіі. 24. Млекакормячае сямейства грызуноў. 27. Алімпійская чэмпіёнка 1960 года па гімнастыцы (апорны скачок). 28. Індывідуальная стралковая зброя.

**Па вертыкалях:** 1. Каратkахвосты рак. 2. Птушка атрада папугаяў. 3. Краіна ў Еўропе, мяжуе з Беларуссю. 4. Пустазелле. 6. Салёнае возера ў Астраханскай вобласці. 7. Комплекс збудаванняў для запуску касмічных караблёў. 8. Сталіца краіны ў Паўднёвай Амерыцы. 11. Літаратурны жанр. 12. Атрутнае рэчыва. 13. Вярхоўная палата парламента ў радзе краін. 15. Знак задыяку. 20. Страта прытомнасці баксерам. 21. Вышэйшая ступень сладастраснага пачуцця. 25. Горад у Гродзенскай вобласці. 26. Зямля, Сусвет.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №23:***

**Па гарызанталі:** 3. Адрас. 5. Раунд. 8. Асоба. 12. Балаган. 13. Тромб. 14. Афарызм. 19. Качар. 20. Камбуз. 21. Русізм. 22. Аміяк. 26. Грыўня. 27. Манаполія. 28. Дранік. 31. Анонс. 34. Рыззё. 37. Падосак. 40. Паром. 41. Янтар. 42. Космас. 43. Вугаль. 44. Крама. 47. Пакет. 48. Пілатаж. 49. Квота. 50. Кірка. 57. Дэльта. 58. Мініяцюра. 59. Перыяд. 62. Ом. 63. Кірмаш. 65. Купала. 66. Алмаз. 69. Кастусь. 70. Ралля. 71. Агарак. 72. Багаж. 73. Вапна. 74. Бядак.

**Па вертыкалі:** 1. Ідэал. 2. Абора. 4. Аматар. 6. Абрэз. 7. Намер. 9. Сафізм. 10. Фаварыт. 11. Азіміна. 15. Тайга. 16. Абшар. 17. Эскіз. 18. Леска. 23. Ананім. 24. Эпілог. 25. Эрозія. 29. Анемометр. 30. Тыпалогія. 32. Парафін. 33. Гатунак. 35. Апека. 36. Арлан. 38. Этыка. 39. Араты. 45. Асвета. 44. Маршал. 47. Паклеп. 51. Эдэм. 52. Флагман. 53. Фірма. 54. Трупа. 55. Дыялект. 56. Адчай. 60. Фіяска. 61. Элегія. 64. Шкала. 65. Кулон. 67. Атлас. 68. Арган.

*РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ*

# Апендыцыт

Калі страваванне ў норме, няма пераядання непаўнавартасных прадуктаў і няма запораў – запаленне апендыкса развіцца не можа. Калі ж яно развілося і ўтварыўся абсцэс, яго можна вылечыць без хірургічнага ўмяшальніцтва – з дапамогаю галадання. Аперацыя, натуральна, хутчэй, але яна можа выклікаць перытаніт, часта вядзе да ўтварэння спаек, якія непакояць да канца жыцця (а пазбавіць ад іх можа толькі паўторная аперацыя, а то і не адна).

Натурапатычнае лячэнне апендыцыту забараняе прыём любой ежы да таго часу, пакуль тэмпература хворага не стане нармальная. Першыя колькі дзён дазваляецца толькі вада – піць глыткамі, па сталовай лыжцы. Патрабуецца абсалютны спакой у цішыні і цяпле ў добра праветрываемым пакоі. Ніякіх слабіцельных не выкарыстоўваць, аднак калі хворы можа вытрымаць клізму без асаблівага дыскамфорту, варта прамыць кішэчнік цёплай гатаванай вадой ці зрабіць упырскванне ў прамую кішку 1 сталовай лыжкі ачышчанага (рафінаванага) аліўкавага алею. Гарачы кампрэс (тканіна, намочаная ў гарачай гарбаце з бузіны) ці гарачыя прыпаркі з вотруб'я варта прыкладваць да хворага месца як мага часцей, гарачую гарбату можна піць па глытку замест вады.

Дні праз 3 боль і дыскамфорт павінныя адступіць настолькі, каб можна было штодня рабіць клізму з 1-1,5 л чыстай цёплай гатаванай вады. Цяпер можна пачаць піць свежапрыгатаваныя фруктовыя сокі, і як толькі тэмпература стала нармальная і прайшоў галаўны боль, можна пераходзіць на дыету з адных фруктаў. А затым паступова пераходзіць на звычайную дыету.

Акупунктура (іголкаўколванне) упершыню была прымененая кітайцамі 5000 год таму. У наш час гэта паспяхова прымяняецца для лячэння вострага і хранічнага апендыцыту.

***Канстанцыя МЭЛАР.***

*ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ*

# Нестэраскапічнае кіно

Гэтую гісторыю я пачуў у невялікім піўным бары, што месціўся за Чырвоным Касцёлам на сталічнай плошчы Незалежнасці. Бар, дарэчы, меў тры неафіцыйныя назвы: "ПНУ" (піўная насупраць універсітэта), "Рэанімацыя" - тут папраўлялі сваё здароўе пасля начных гулянак студэнты з універсітэта і педінстытута, "Свіное рыла" (калі навічок пытаўся, як узнікла гэтая назва, старажылы дружна маўчалі і пілі піва; а ўсё было проста – частка піўнога зала была з калонамі, вакол якіх стаялі невялікія паліцы-сталы, а пад столлю вакол калон віселі люстэркі пад вуглом 45° і калі навічок куляў чарговы куфаль, у люстэрку ён бачыў свае "пяць капеек"; ад тытунёвага дыму, які вісеў пад столлю, і слабой рэзкасці ў вачах ад выпітага здавалася, што ў люстэрку адлюстроўваецца свіны пятачок).

Здарылася ўсё на вуліцы Казлова, у суседнім з кінатэатрам "Мір" доме. Пасля шлюбу маладыя пераехалі сюды жыць. Прывезлі свой невялікі скарб, сярод якога была і новая зборная шафа. У першы дзень хлопец сабраўся на работу ў другую змену. Яшчэ пацікавіўся ў жонкі, ці не баіцца яна адна застацца дома.

Калі прыйшоў час класціся спаць, дзяўчына патушыла святло і лягла ў ложак. Нечакана раздаўся непрыемны рып і дзверкі шафы паволі адчыніліся. Дзяўчына падскочыла, уключыла свет, агледзелася – нічога няма. Зачыніла створкі і паспрабавала заснуць. Праз хвілінаў колькі, калі яна амаль супакоілася, дзверкі зноў адчыніліся, потым яшчэ і яшчэ.

Жах апанаваў дзяўчыну, яна падскочыла, у адной начніцы выскачыла на пляцоўку і пазваніла суседзям. Дзверы адчыніў пузаты мужчына ў сямейных трусах у кветачкі. Пасля таго, як дзяўчына расказала прa дзіўныя дзверкі, сусед згадзіўся дапамагчы. Хто ж не згодзіцца выратаваць маладую, прыгожую, амаль неапранутую дзяўчыну – ды ноччу?!

Зайшлі яны ў спальню, селі на ложак і пачалі чакаць. Сапраўды праз некаторы час дзверкі шафы адчыніліся самі сабою. А жудасны рып напалохаў нават мужчыну. Ён перахрысціўся сам, а за адным разам і шафу. Потым агледзеў яе, нават залез пад ніз і ў сярэдзіну.

У гэтую хвіліну дамоў з работы, натуральна, і вярнуўся муж. Убачыў збялелую жонку, якая ў адной начніцы сядзіць на ложку, і тоўсты мужчынскі зад, які тарчыць з шафы.

– Што ж вы тут робіце?

Сусед вылез з шафы:

– Чакаем, калі дзверкі адчыняцца.

Сабраўшы волю ў кулак, хлопец сеў на ложак і таксама пачаў чакаць. Дзверкі не адчыніліся. Назаўтра высветлілася, што адчыняліся яны ад вібрацыі, якую стваралі трамваі (калі хлопец вярнуўся з работы, трамваі перасталі хадзіць). Дастаткова было адрэгуляваць ножкі ў шафе – і ўсе жахі зніклі.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ*

# Ведай свае вёскі

Выпадак з 1915 года. Немцы, прарваўшы фронт, рушылі на ўсход. Іх разведка ўвайшла ў вёску Ляхавічы. Сустрэлі на вуліцы мужчыну, спыталіся, як бліжэй дайсці да Вусаўшчыны. Той не ведаў, хаця гэты населены пункт знаходзіўся за паўтара кіламетра. Немцы папрасілі назваць суседнія вёскі. Селянін называў: Мохавічы, Зані, Качаны, Бадзені, Раманаўшчына, Юдкі. А Вусаўшчыну не ўспомніў. Разведчыкі насцярожыліся і палічылі, што перад імі пераапрануты рускі салдат, пакінуты для дыверсій у тыле кайзераўскай арміі.

На вочы трапіўся другі мужчына, і той не ведаў недалёкай адсюль Вусаўшчыны. Пачалі дапытваць трэцяга. І ён не ведаў, дзе патрэбная ворагу вёска. Назваў у ліку іншых Юдкі, хаця такой не было на карце.

Усё ж немцам удалося, нарэшце, высветліць, што мясцовыя жыхары суседнюю вёску Вусаўшчына называлі па–свойму – Юдкі, бо там усе жыхары мелі прозвішча Юдыцкія.

Недасведчаных у геаграфіі сваёй мясцовасці немцы "пачаставалі" шампаламі і рушылі далей. Гэты выпадак потым доўга ўспаміналі і смяяліся.

# Танцы на стале

Гісторыя здарылася задоўга да таго, як Клінтан пазнаёміўся з Монікай, а Скуратаў быў у абдымках прыгожых маладзіц.

У пасёлку Свір разыгралася не менш забаўляльная падзея. Адзін мужчына пачаў патаемна наведваць прывабную ва ўсіх адносінах суседку–свіранку. Аднаго разу, паддаўшыся сваім неўтаймаваным пачуццям (пры поўнасцю незанавешаным акне), свіран і свіранка пачалі голыя танцаваць на стале. Высачыла жонка. Пасыпалася аконнае шкло, гучала трохпавярховая лаянка...

А потым было бюро партарганізацыі. Строгая вымова з занясеннем ва ўліковую картку. Наступны этап: бюро райкома партыі. Сакратар райкома з гневам у голасе рабіў дакор, асуджаў учынак. Слухаў, слухаў герой гэтага апавядання ды сказаў:

– Таварышы, што я – да той жанчыны прыставаў з нажом ці кінжалам? Зразумейце мяне...

У зале грымнуў такі рогат, што не вытрымаў сам першы, і прамовіў: "Зацвярджаю строгую вымову. Прэч адсюль!"

«Дон–Жуан» хуценька вынес ногі з кабінета. А там яшчэ чуваць быў смех. Члены бюро браліся за жываты: так дасціпна чалавек імкнуўся апраўдаць свой учынак.

***Міхась ЧАРНЯЎСКІ.***

*СМАЧНА ЕСЦІ*

# Запечаная ў смятанным соусе асятрына

На адну порцыю спатрэбіцца: асятрына 100 г мука 10 г, тлушч 10 г, грыбы белыя 15 г, яйка 10 г, цыбуля рэпчатая 10 г, 2–3 бульбіны, смятанны соус 130 г, сыр 5 г, масла 15 г.

Парцыённы кусок асятрыны (без храстка) зашпарыць, пасаліць, паперчыць, абваляць у муцэ і абсмажыць. Рыбу выкласці на парцыённую патэльню, якую папярэдне змазаць тлушчам. Побач пакласці кавалачкі варанай бульбы, абсмажаныя белыя грыбы (ці шампіньёны). На рыбу пакласці парэзаную цыбуліну, круглячок крутога яйка.

Усё заліць смятанным соусам. Для яго прыгатавання смятану давесці да кіпення (лепш на патэльні), змяшаць з добра парасціранай у гарачым масле мукой (1 ч. лыжка). Дадаць соль, спецыі, пасля чаго праварыць 2–3 хвіліны.

Рыбу ў соусе абсыпаць цёртым сырам, папырскаць маслам і выпякаць у жароўні 10–15 хвілін.

Падаваць да стала трэба ў парцыённай патэльні. Зверху ўпрыгожыць зелянінай.

Гэтак можна прыгатаваць не толькі асятрыну, але і ўсялякую буйную рыбу, якая не мае шмат дробных костак.

***Падрыхтавала Святлана САРОКА.***

*ГАРАСКОП 14 – 20 ЧЭРВЕНЯ*

**АВЕН (21.03–20.04)**
Пачынаючы з чацвярга, вы - пераможца, але не вельмі ганарыцеся ўласнымі поспехамі, таму што ў іх не толькі ваша заслуга. Зрабіце падарункі блізкім і сябрам, а для калег арганізуйце невялікую вечарынку.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Лепш адмовіцца ад прыняцця важных рашэнняў і правесці тыдзень ў самым цесным асяроддзі. Не паддавайцеся на правакацыі, не прыслухоўвайцеся да сплетняў, паколькі ў пагоні за прывідамі рызыкуеце згубіць штосьці сапраўднае.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Ваша прывычка лазіць у кашалёк з прычыны і без прычыны можа прывесці да значных фінансавых страт. Невялікія непрыемнасці ў выхадныя дні ўжо да пачатку наступнага тыдня зменяцца прарывам на рабоце. У асабістым жыцці - завяршэнне не надта сур'ёзнага рамана.

**РАК (22.06–23.07)**
Перыяд пачнецца з расчаравання ў некаторых пытаннях, звязаных з надзеямі на змены ў асабістым жыцці. Аднак абсалютна нечаканы паварот падзей лішні раз пацвердзіць - за новым паваротам вас чакае чарговае свята.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Працягваецца не самая светлая паласа ў вашым жыцці. Але як яшчэ раз патлумачыць амбіцыйнаму Льву, што "нармальныя героі заўсёды ідуць у абход"? Прыдумайце нестандартны трук - і вы вернеце былы аўтарытэт. Пазбягайце сцэн рэўнасці.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Павышаны траўматызм. Лепш не садзіцца за руль у суботу і панядзелак. Планы зменлівыя і, хутчэй, будуць выконвацца ў супрацьлеглым ад задуманага накірунку. Самы ўдалы дзень перыяду - нядзеля. Пастарайцеся яго максімальна прадуктыўна выкарыстаць.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Перыяд пачнецца з канфлікту, які, дарэчы, пагасне гэдак жа раптоўна, як загарыцца. Добры настрой і стабільнае фінансавае становішча зробіць вас некалькі назойлівым у адносінах да сяброў, ад якіх вы будзеце патрабаваць сустрэч і забаў. Пацікаўцеся для пачатку іх планамі...

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Паездка, што прадбачыцца, можа прынесці задавальненне толькі ў тым выпадку, калі вы не будзеце занадта скрупулёзны ў яе планаванні, інакш магчыма расчараванне. Увесь перыяд настрой нестабільны і эмоцыі зменлівыя. Магчымыя канфлікты з дзецьмі.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
За выключэннем дробных сямейных непаразуменняў, перыяд будзе поўны прадуктыўнай дзейнасці, новых ідэй і адкрыцця перспектыў. Будзе лепш, калі вы, далікатна адклаўшы ўсе сардэчныя справы, зоймецеся толькі работай. Вынік не прымусіць сябе чакаць.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Сітуацыя на рабоце можа кардынальна перамяніцца ў добры для вас бок на адной толькі абаяльнасці. Таму не будзьце сугнеем - пара кампліментаў партнёру ці скрышальная ўсмешка - і добрая здзелка ў вас у кішэні. Дамы-Казярогі атрымаюць прызнанне ў каханні.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Запланіраваны уік-энд, хутчэй за ўсё, не адбудзецца, таму што справы паклічуць у дарогу ў пятніцу ці нядзелю. І будзе лепей, калі вы, ахвяраваўшы зносінамі з сябрамі, прыступіце да работы. Паверце, гэта дазволіць вам наступныя выхадныя быць спонсарам любой па маштабе вечарынкі.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
У пачатку перыяду вы адчуеце вострую неабходнасць расставіць кропкі над "і", як у асабістым жыцці, так і на рабоце. Не бойцеся, бывае, на цвёрда сказанае "не" фартуна адказвае прадастаўленнем новых і вельмі прывабных шанцаў дабіцца вялікіх поспехаў.

